**Выдавец:**
ПП «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

49 (557) 9 снежня 2010 года.
Кошт свабодны.




Прэзентацыя кнігі «Беларуская Атлянтыда» ў Мінску. Вячаслаў Ракіцкі раздае аўтографы. Матэрыял на стар. 4



Рэклама ў газеце «ВГ», тэл.: 8(029) 813-99-99

## Ïàñòà¢ñê³ ³ Ïë³ñê³ ëüíîçàâîäû ¢âîéäóöü ó "ëüíÿíû õîëäûíã" Â³öåáñêàé âîáëàñö³

■ Ч. Якубовіч

**У Віцебскай вобласці хутка створаць ільняны холдынг, куды на базе ўзаемных кааперацыйных адносінаў увойдуць 10 ільнозаводаў Віцебскай вобласці, а таксама льнозаводы іншых абласцей.**

На чале холдынга будзе стаяць РУПТП "Аршанскі льнокамбінат".

Паведамляецца, што ў склад холдынгу ўвойдуць Плiскi, Пастаўскi, Бешанковiцкi, Верхнядзвiнскi, Дубровенскi, Коханаўскi, Лёзненскi, Арэхаўскi, Сенненскi, Чашнiцкi льнозаводы. У 2011-2013 гадах на гэтых заводах будзе праведзена мадэрнізацыя з усталёўкай высокапрадукцыйнага тэхналагічнага абсталявання. На гэтыя мэты мяркуецца накіраваць Br90 млрд. У 2011 годзе тэхнічнае пераабсталяванне пачнецца з Плiскага, Лёзненскага і Арэхаўскага льнозаводаў.

Астатнія льнозаводы вобласці будуць аб'яднаныя з сельскагаспадарчымі арганізацыямі ці далучаныя філіяламі да мадэрнізаваных ільнозаводаў.

Па меркаванні старшыні Віцебскага аблвыканкама Аляксандра Косінца, у склад холдынгу апроч ільнокамбіната і льнозаводаў павінны ўвайсці НДІ лёну і банк. "Гэта дазволіць мець эфектыўную льняную структуру", - перакананы губернатар.

## Ó Â³öåáñêó ç'ÿâÿööà ³íòýðíýò-ìàðøðóòê³



■ Ñÿðæóê Ñåðààáðî

**Ужо напачатку 2011 года ў Віцебску павінны з'явіцца маршрутныя таксі, пасажыры якіх змогуць скарыстацца высакахуткасным інтэрнэтам па тэхналогіі 3G.**

Гэты праект віцебскіх маршрутак знаходзіцца на заключнай стадыі распрацоўкі - аўтацэнтр Ford "Атлант-М Баравая", які з'яўляецца ініцыятарам праекта, вывучае прапановы некалькіх мабільных аператараў.

Дырэктар аўтацэнтра Сяргей Еліспратаў заявіў, што беларускі дылер Ford-а і сотавыя аператары створаць умовы, пры якіх пасажыры змогуць карыстацца інтэрнэтам бясплатна. Аднак рашэнне спаганяць ці не спаганяць аплату за доступ да Сеткі ўсё ж будзе прымаць сам перавозчык.

Праект маршрутных таксі з інтэрнэт-доступам аўтацэнтр Ford "Атлант-М Баравая" прэзентаваў на канферэнцыі "Дзелавы інтэрнэт-2010" яшчэ ў кастрычніку. Плануецца, што першыя інтэрнэт-маршруткі можна будзе ўбачыць ужо ў студзені 2011 года. Акрамя Віцебска падобны транспарт з'явіцца ў Мінску і на міжгародных маршрутах.

## Êàëÿ 20 âûñàêàðîäíûõ àëåíÿ¢ "ïðàï³ñàë³ñÿ" íà äàêøûöêàé çÿìë³

1 снежня завяршылася перавозка высакародных аленяў з пітомніка каля Дзевіна Аршанскага раёна ў паляўнічую гаспадарку "Камайск" Докшыцкага раёна. Цяпер у новым месцы, на тэрыторыі каля ста гектараў будуць жыць дваццаць высакародных аленяў.

Тэхналогія адлову і перавозкі аленя і простая і складаная адначасова. Спачатку жывёлу трэба ўсыпіць, трапіўшы ёй у цягліцу маленькай куляй, якая змяшчае прэпарат усыпляльнага дзеяння. Як толькі алень засынае, да яго спяшаюцца працаўнікі пітомніка. За кароткі час, пакуль дзейнічае снатворнае, трэба паспець перанесці аленя да машыны, адпілаваць рогі і пагрузіць жывёлу ў адмысловую абсталяваную скрыню для перавозкі.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

## Êàëÿ ëåñó, àëå áåç äðî¢

■ Станіслаў Раманчук.

**Напярэдадні выбараў дзяржаўныя СМІ толькі і гавораць, што беларусы сталі жыць лепш і аб існуючай у краіне сацыяльнай дапамозе тым, хто мае патрэбу.**

Аднак прыйшла зіма, а вельмі многія сем'і так і не вырашылі свае праблемы з забеспячэннем паліва. Вось і ў Браслаўскім раёне, чвэрць тэрыторыі якога займаюць лясныя масівы, сітуацыя з дрывамі для насельніцтва пагоршылася яшчэ летась. Напрыканцы восені ў чарзе на атрыманне торфабрыкету ў азёрным краі знаходзіліся каля 2 тысяч сем'яў, хоць на Браслаўшчыне дзейнічае свой торфабрыкетны завод. Праўда, купіць гэта паліва свабодна можна толькі па рынкавых цэнах. Для большасці небагатых састарэлых жыхароў глыбінкі такія траты непад'ёмныя, а магчымасці датацыйнага раённага бюджэту недастатковыя, каб ліквідаваць вялізную чаргу. У выніку завод адпускае торфабрыкет штомесяц толькі каля 100 сем'ям, а ў сельсаветах яго могуць атрымаць не больш за 4-5 чалавек. Раён прасіў вобласць дапамагчы датацыямі на паліва ў суме 798 млн. рублей, аднак адтуль выдзелілі толькі 150 мільёнаў. Як выхад, дазволілі нарыхтоўваць людзям дровы з сухастою, буралому самастойна і далёка ад дому, самім шукаць транспарт для іх вывазкі адтуль. Толькі многія старыя не маюць ужо на тое ні сіл, ні здароўя...

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

## Âûéøë³ íà å¢ðàïåéñê³ ¢çðîâåíü

■ Кастусь Александровіч

**Каля трохсот гароднінасховішчаў і складоў-халадзільнікаў, 9 тысяч магазінаў толькі ў сістэме спажыўкааперацыі Беларусі займаюцца нарыхтоўкамі і перапрацоўкамі дароў садоў і агародаў.**

Як узняць гэту сістэму на сучасны ўзровень–аб гэтым днямі ішла зацікаўленая размова на выязным пасяджэнні праўлення Белспажыўсаюза ў Паставах. Тут найбольш наблізілі гэту дзейнасць да ўзроўню патрабаванняў якасці і бяспекі прадуктаў харчавання ЕС, у чым пераканаліся госці з розных куткоў краіны. У Пастаўскім райпо зараз давялі асартымент прадукцыі пад гандлёвай маркай "Старонка Тызенгаўза" да 245 найменняў. Гароднінасховішча на тысячу тон праціуе на аснове камп'ютарных энергазберагаючых тэхналогій, навейшае імпартнае абсталяванне ўстаноўлена і ў складзе-сховішчы для садавіны на 270 тон. На венгерскім і аўстрыйскім абсталяванні працуе і квасільны цэх, натуральная прадукцыя якога добра рэалізуецца. Не пазнаць стала пасля тэхпераўзбраення хлебазавод, мясаперапрацоўчы і рыбны цэхі. Зараз смачная і якасная прадукцыя пастаўчан прадстаўлена па ўсёй РБ, а таксама знаходзіць ўсё больш шырокі попыт на прасторах Расіі.

Ãëûáîöê³ ðà¸í

## Àä÷óöü ø÷àñöå ñÿì'³

■ Чэслаў Якубовіч

**Нягледзячы на ўсе намаганні дзяржавы па змяншэнні сацыяльнага сіроцтва, сёлета толькі на Віцебшчыне прыйшлося пазбавіць бацькоўскіх правоў яшчэ 127 гора-мам і татаў.**

Пакуль з двухсот тысяч дзяцей у вобласці амаль 4,5 тысячы вымушаны жыць у казённых сценах дзетдомаў і школ-інтэрнатаў. Пашчасціла толькі амаль ста дзеткам, якія цяпер растуць у 12 дзеючых дзіцячых дамах сямейнага тыпу. Адзін з іх з'явіўся некалькі гадоў назад і ў Глыбоцкім раёне паблізу райцэнтра. Тут у вялікім двухпавярховым доме, пабудаваным з дапамогай дзяржбюджэту, жыве шчаслівая сям'я Тацяны і Рыгора Грабко. Яго гаспадыня нарадзілася на Украіне, там атрымала педагагічную адукацыю і затым вярнулася на радзіму сваіх продкаў. Яны з мужам гадавалі траіх сваіх дзетак, а потым Тацяна прывяла дамоў з месца працы, сацыяльнага прытулку, дзяўчынку, у якой памерлі бацькі. Хутка прыёмныя бацькі прынялі, як родных, у свой дом яшчэ шасцёра пакрыўджаных лёсам дзяўчынак і двух хлопчыкаў. У гэтай сям'і пануе згода і ўзаемавыручка, дзеці за два гады паспелі пазнаць адзін другога і стаць сябрамі па жыцці. Іх выхоўваюць у павазе да сямейных каштоўнасцей і да працы. Аднак і пра цікавы адпачынак тут не забываюць: мінулым летам пабывалі ўсёй вялікай сям'ёй у падарожжы па сонечным Крыме, на аўтамабілі зрабілі вандроўку па прыгажэйшых мясцінах суседніх Пастаўскага і Браслаўскага раёнаў.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîêà³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 09.12.10 | | | | пятн. 10.12.10 | | | | сб. 11.12.10 | | | | нядз. 12.12.10 | | | | пн.13.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -6 | -2 | 0 | -4 | -7 | -7 | -6 | -7 | -8 | -9 | -8 | -9 | -11 | -13 | -8 | -8 | -12 | -15 | -13 |
| Ціск, мм | 741 | 733 | 727 | 729 | 732 | 732 | 732 | 734 | 735 | 735 | 736 | 738 | 741 | 742 | 741 | 741 | 742 | 743 | 743 |
| Вільготнасць, % | 94 | 100 | 94 | 89 | 89 | 89 | 87 | 88 | 86 | 91 | 86 | 87 | 82 | 79 | 81 | 89 | 93 | 96 | 87 |
| Вецер м/сек | В 5 | Ю-В 7 | Ю-З 5 | З 7 | З 6 | Ю-З 3 | С 3 | С-З 7 | С-З 7 | С-З 5 | С-З 4 | С-З 5 | С-З 5 | З 3 | Ю-З 5 | С-З 2 | С 3 | С-В 3 | В 4 |
| | | 08:22 | 15:41 | | | 08:23 | 15:41 | | | 08:25 | 15:40 | | | 08:26 | 15:40 | | 08:27 | 15:40 | |
| | | 10:57 | 19:44 | | | 11:15 | 20:58 | | | 11:29 | 22:11 | | | 11:41 | 23:22 | | 11:53 | - | |

## Äçåíü çà äíåì

**Візавы рэжым можа быць неўзабаве аблегчаны для простых грамадзян Беларусі незалежна ад прызнання Еўрасаюзам вынікаў снежаньскіх выбараў. Кіраўніцтва ЕС спадзяецца адкрыць свае пасольства ў РБ у пачатку 2011 года. У праекце праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны да 2015 года беларусам паабяцалі ўжо 850 $ заробкаў у сярэднім. Аднак і цяпер даходаў у памеры 500 долараў у месяц большасць суайчыннікаў не мае і можа аб гэтым толькі марыць. У рамках пагаднення з Кітаем Нацбанк РБ атрымаў першых 900 млн. $ у юанях для развіцця двухбаковага гандлю.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Расія.** Кампанія "Транснафта" заявіла, што з 2011 года не мае патрэбы ў паслугах Беларусі па пракачцы транзітам яе нафты па існуючых нафтаправодах "Дружба" і "Адэса-Броды".

**Кыргызстан.** У Бішкеку пачаўся самы буйны судовы працэс па факце масавага растрэлу 87 пратэстуючых, па справе абвінавачваюць 28 чалавек, з іх 6 – у міжнародным вышуку.

**Карэя.** Пасля абстрэлу з боку камуністычнай КНДР вострава Енпхенда загінула 4 карэйцы, было паранена яшчэ 18 чалавек, інцыдэнт ледзь не прывёў да вайны з суседам.

**ЗША.** З касмадрома на мысе Канаверал запусцілі самы вялікі і засакрэчаны ў свеце шпіёнскі спутнік. Якія задачы будзе выконваць гэты апарат, застаецца невядомым.

**Партугалія.** Сілы НАТА, як заявіў генсек арганізацыі Андэрс Расмуссен, застануцца ў Афганістане колькі трэба для барацьбы з талібамі.

**Аўстралія.** Адразу 6 самалётаў аўстралійскай кампаніі Qantas зрабілі за паўмесяца па розных прычынах вымушаныя пасадкі ў аэрапортах свету. Пасажыры не пацярпелі.

**Украіна.** Некалькі тысяч прадпрымальнікаў з розных рэгіёнаў краіны ўстроілі ў сталіцы масавыя акцыі пратэсту "Ганьба" супраць новага драконаўскага Падатковага кодэкса.

**Польшча.** У большасці ваяводстваў, паветаў і гмін краіны выбары ў органы мясцовага самакіравання, мэраў гарадоў выйграла правячая партыя "Грамадзянская платформа".

**Германія.** У вядомым будынку Нюрнбергскага трыбуналу над злачынцамі-нацыстамі адкрыўся музей са шматлікімі архіўнымі дакументамі, відэа- і аўдыяматэрыяламі працэсу.

**Нігерыя.** У выніку нападзення мясцовых піратаў быў паранены повар расійскага нафтавага танкера, капітан зламаў руку, але каманда паспела схавацца, злачынцы пакінулі судна.

**Ірландыя.** Агульны доўг краіны дасягнуў амаль 90 млрд. EUR, ураду прыйшлося пайсці на нацыяналізацыю банкаў-банкротаў і папрасіць дапамогі ЕС і МВФ для паратунку.

**Польшча.** На перыяд выбарчай кампаніі беларускае МЗС не акрэдытавала журналіста Анджэя Пачобута і фотакарэспандэнта самай уплывовай польскай "Газеты выборчай".

**Англія.** Па краіне пракаціліся масавыя акцыі пратэсту моладзі супраць павышэння платы за навучанне ў ВНУ ў 3 разы, у Лондане былі паранены 17 чалавек.

**Літва.** Літоўская чыгунка дамовілася з калегамі з Беларусі аб арганізацыі да 2013 года хуткаснага цягніка паміж Вільнюсам і Мінскам, сама паездка зойме ўсяго 2 гадзіны часу.

**Францыя.** Парыжскі манетны двор выпусціў самую дарагую манету коштам 100 тысяч еўра з чыстага золата вагай 1 кг, у яе ўціснулі 68 брыльянтаў у выяву храма Тадж-Махала.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Кіраўск.** У душы жыве слабая надзея на змены ў Беларусі, заявіў праслаўлены экс-старшыня СВК "Рассвет" імя Арлоўскага, двойчы Герой Сац Працы Васіль Старавойтаў.

**Мінск.** Нямецкі дыпламат, глава місіі БДІПЧ АБСЕ Герт Арэнс пацвердзіў, што асноўны склад назіральнікаў ад ЕС будзе знаходзіцца ў Беларусі яшчэ тыдзень пасля 19 снежня.

**Жабінка.** На мясцовым цукровым заводзе распрацавалі навінку – цукар, узбагачаны мікраэлементамі селену, ёду, вітамінам Е, па смаку звычайны, але больш карысны для здароўя.

**Мінск.** З Прэзідэнтам Беларусі адмовіўся сустрэцца кіраўнік МЗС Расіі С. Лаўроў, гэта назвалі "прыкметай слабасці Крамля", як і забарону кантактаў з "малодшым саюзнікам".

**Магілёў.** Сесія абласвета дэпутатаў дазволіла вяскоўцам атрымоўваць яшчэ да 3-х га зямлі для вядзення прысядзібных гаспадарак, іх можна ўводзіць у севазварот калгасаў.

**Брэст.** Больш за 60 пенсіянераў пачалі бясплатна вучыцца у Інстытуце трэцяга ўзросту адразу на некалькіх факультэтах, гэта форма адукацыі шырока развіта на Захадзе.

**Жлобін.** Новы лістапракатны завод пабудуюць тут сумесна з італьянскай кампаніяй, кантракт на гэта падпісалі на Беларускім інфестфоруме ў Франкфурце-на-Майне.

**Мінск.** Па незразумелых прычынах перанеслі абарону доктарскай дысертацыі былога ўрача А. Лукашэнкі Ірыны Абельскай, у яе ёсць 4 патэнты і 60 навуковых прац.

**Маладзечна.** Паблізу горада на трасе на Мінск трагічна загінуў днём у аўтакатастрофе вядомы вучоны, член-карэспандэнт НАН Беларусі Іван Нікітчанка, які быў у партыі БНФ.

**Бабруйск.** На мадэрнізацыю трасы М5 на ўчастку да Пухавіч Сусветны банк упершыню выдаткаваў Беларусі крэдыт на суму 150 млн. USD, работы выканаюць за 4 гады.

**Пінск.** З аказанай пацярпелым ад моцнага выбуху на "Пінскдрэве" матэрыяльнай дапамогі ў бухгалтэрыі холдынга ўзялі па 6 і болей млн. рублёў грошай на падаходны падатак.

**Мінск.** Кампанія "Еўраторг" прапанавала свайм кліентам у самым танным у Беларусі гіпермаркеце "Еўраопт" новую дысконтную праграму "Е-Плюс" са зніжкамі яшчэ на 5 %.

**Астравец.** Напярэдадні выбараў усе 300 рабочых картоннай фабрыкі "Альхоўка" рашуча выступілі супраць яе закрыцця. Пра гэта неабачліва прагаварыўся кіраўнік раёна на сходзе.

**Мінск.** У адным з кніжных салонаў прайшла прэзентацыя першага непадцэнзурнага твора У. Караткевіча "Ладдзя роспачы", савецкія цэнзары ў свой час зрабілі ў ім 296 правак тэксту.

**Барысаў.** Чэмпіён краіны па футболе ФК "БАТЭ" зноў адмовіўся ад удзелу ў міжнародным турніры Кубак Садружнасці-2011, які пройдзе зімой у Санкт-Пецярбургу.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûáåëàðóñêіõ ïàäçåé

**Новалукомль.** На працягу трох дзён у горадзе праходзіла 11-е пасяджэнне расійска-беларускай міжурадавай камісіі па ўзгадненні ваеннатэхнічнага супрацоўніцтва.

**Віцебск.** Шэраг значных мерапрыемстваў "Універсітэту – усяго 100!" адбылося ў ВДУ імя П. М. Машэрава з нагоды юбілею старэйшай па ўзросту ВНУ Беларусі з 11 тыс. студэнтаў.

**Докшыцы.** Мясцовая ПМК-52 начала будаўніцтва фундамента сучаснай малочнатаварнай фермы ў вёсцы Вяцера на тысячу галоў статку з навейшым камп'ютарным абсталяваннем.

**Шуміліна.** У вёсцы Мішневічы прайшла ўрачыста-жалобная цырымонія перазахавання астанкаў 8 воінаў-сапёраў, якія загінулі ўжо пасля вайны пры размініраванні раёна.

**Полацк.** Адну гадзіну склала затрымка руху цягніка Брэст-Масква на тэрыторыі раёна пасля сутыкнення на пераездзе з МАЗам, раней на Глыбоччыне аўто трапіла пад дызель.

**Мёры.** Адразу два шматпавярховых жылых дамы па 40 кватэр кожны намечана здаць навасёлам у райцэнтры ў будучым годзе, за 5 год у раёне жыллё атрымалі 620 сем'яў.

**Глыбокае.** У цэнтры горада РУП "Віцебскаблсаюздрук" завяршае капітальны рамонт выкупленага ў райпо будынка для свайго міні-маркета, здача –напрыканцы года.

**Лёзна.** У аднолькавым аграгарадку Кавалі ўпершыню з'явіўся сучасны сельскі Дом культуры з актавай залай, грымёркамі, танцзалай, купілі сюды абсталявання на 47 млн.

**Орша.** "І не знікаць паэтам вечна" – пад такой назвай у горадзе над Дняпром прайшоў тыдзень шматлікіх мерапрыемстваў з нагоды 80-годдзя земляка Уладзіміра Караткевіча.

**Шуміліна.** Пасярод працоўнага дня чацвёра злачынцаў абрабавалі магазін прамысловых тавараў райпо, міліцыя па гарачых слядах затрымала дваіх раней судзімых віцяблян.

**Віцебск.** З дапамогай сталічных альпіністаў нарэшце завяршылі пакрыццё шклом усяго высотнага бізнес-цэнтра "Марка-сіці", яго здача ў эксплуатацыю плануецца летам 2011 года.

**Орша.** Побач з горадам у Барані пачалася рэканструкцыя Цэнтра падрыхтоўкі алімпійскага рэзерву па конным спорце і конегадоўлі, яна завершыцца праз 2 гады.

**Полацк.** У двары вучэбнага корпуса мясцовага дзяржуніверсітэта ўрачыста адкрылі адну з першых у краіне бронзавую скульптуру "Полацкі студэнт".

**Лужасна.** На базе гімназіі для адораных дзяцей вырашана ствараць кадэцкі корпус і рыхтаваць кадры для арміі з дапамогай Ваеннай акадэміі РБ і іншых ваенных ВНУ краіны.

**Наваполацк.** Ганаровы грамадзянін горада, штурхальнік молата Вадзім Дзевятоўскі аб'явіў аб падрыхтоўцы да Алімпіяды-2012 у Лондане, дзе збіраецца заваяваць медаль.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**798** стольі асноўных айчынных прадпрыемстваў (39,9 % ад агульнай колькасці ўлічваемых), па дадзеных Белстата, былі ў Беларусі па стане на 1 кастрычніка неплацежаздольнымі. Практычна столькі ж (713 заводаў і фабрык) не мелі на дадзены перыяд уласных абаротных сродкаў. Нават калгасны эканаміст ведае, што такі тэрмін азначае поўную адсутнасць фінансавых сродкаў альбо наяўнасць недастатковай для далейшага развіцця вытворчасці грошай.

На такім фоне нам даводзяць, што быццам бы беларусы выстаялі ў сусветным крызісе, пераадолелі нямала праблем і гатовы імкліва рухацца далей. Аднак нікуды не дзецца ад таго факту, што ў асобных галінах эканомікі, такіх як электраэнергетыка, мукамольна-камбікормавая прамысловасць, будматэрыялы, лёгкая прамысловасць, лясная, дрэваапрацоўчая і нават хімічная і нафтахімічная прамысловасць, сітуацыя проста дрэнная. Там ужо трэць, палова і нават 62,5 % прамысловых прадпрыемстваў энергетыкі пазбавіліся абаротных сродкаў.

Адсюль і нізкая канкурэнтаздольнасць беларускіх тавараў і павелічэнне знешнегандлёвага дэфіцыту Беларусі за 3 кварталы года да 6 млрд. $, што на 1 мільярд долараў больш, чым было на канец верасня 2009 года. Айчынная эканамічная мадэль, абцяжараная шматлікай бюракратыяй, каманднымі метадамі кіравання і складанай сістэмай падатковаабкладання стала ўжо тормазам далейшага развіцця краіны. У цэлым па Беларусі зараз 3263 буйныя суб'екты гаспадарання (35,9 % ад усёй колькасці) неплацежаздольныя, і таму такі высокі адмоўны ўзровень гандлёвага сальда краіны.

Між тым, стан знешняга гандлю любой дзяржавы з'яўляецца люстэркам сапраўднага стану яе эканомікі. Толькі ў будучай пяцігодцы ставіцца здача выйсці на станоўчае знешнегандлёвае сальда. Але як гэтага дасягнуць, калі ў найбольш індустрыяльна развітым Мінску, дзе сабрана ўся эліта прамысловасці, розныя НДІ, Акадэмія навук і нават пачала стварацца беларуская "сіліконавая даліна", сёлета гэта адмоўнае сальда – мінус 2,5 млрд. $ за студзень-верасень.

Менавіта сталічны мегаполіс – найбольшы аўтсайдар у краіне, бо 4 вобласці Беларусі, за выключэннем Віцебскай і Гомельскай, маюць станоўчы знешнегандлёвы баланс. Не навучыліся беларусы са сваімі дапатопнымі састарэлымі тэхналогіямі зарабляць валюту. Тое самае і ў сельскай гаспадарцы, дзе з калгаснай прымусовай сістэмай гаспадарання замахнуліся абысці еўрапейскіх канкурэнтаў на рынку харчавання і павялічыць удвая экспарт ежы – да 7 млрд. $ штогод. Тым больш, што цяпер сур'ёзна абвастрыліся адносіны паміж Беларуссю і Расіяй, аднаго з асноўных нашых купцоў і гандлёвых партнёраў у палітычнай і эканамічнай плоскасці.

Адзінае, што ў ваеннай сферы абедзве краіны застануцца саюзнікамі, хоць адмова А. Лукашэнкі падпісваць у рабочым парадку План прымянення сумеснай ваеннай групоўкі выклікала негатыўную рэакцыю Крамля. Шэраг экспертаў расцанілі такі крок, як элегантна прыкрытае патрабаванне да расійскага кіраўніцтва прызнаць вынікі прадстаячых выбараў у РБ. Менавіта гэты козыр дае падставу беларускаму лідару застацца і далей легітымным кіраўніком і захаваць права голасу ў вышэйшым Дзяржсавеце. Ён адчувае сябе ўпэўнена і ставіць пытанні аб продажы беларускай арміі расійскай зброі па льготных цэнах.

Рэальных канкурэнтаў у яго ў чарговай па ліку выбарчай кампаніі, па сутнасці, няма, тым больш пры адсутнасці ў 9 кандыдатаў-канкурэнтаў адзінага лідара. Дзеючаму прэзідэнту гарантавана ў ёй перамога, толькі пакуль невядома, з якой перавагай над апазіцыяй. Усё будзе залежаць ад таго, як адкрыта пройдзе працэдура падліку галасоў і наколькі шырокім будзе датэрміновае галасаванне, бо выбаркамы і ўчастковыя камісіі сфармаваны з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу. Аднак выбары неўзабаве завяршацца, а развіваць эканоміку далей, павышаць даходы выбаршчыкаў прыйдзецца, як ужо заяўлена, неймаверна ўпартай працай, і кожнаму будзе гарантавана рабочае месца.

# Краязнаўства – гэта стыхія А.Шалахоўскага

■ Міхась Маліноўскі, праўдзейны член Геаграфічнага таварыства, г. Баранавічы.

**На днях з Мінска я і паэт, мастак, краязнаўца, а зараз пенсіянер Алесь Корнеў атрымалі па толькі што выдадзенай кніжачцы "Польскі кавалер" Аляксея Шалахоўскага – адметнага знаўцы і даследчыка гісторыі, культуры, краязнаўчых таямніц нашай краіны. Нарадзіўся ён у сталіцы 8 снежня 1975 года, скончыў школу №16, паспяхова паступіў у Белдзяржуніверсітэт і стаў гісторыкам.**

Маё знаёмства з А.Шалахоўскім спачатку адбылося завочна па яго краязнаўчых публікацыях у газетах "Молодёжный курьер", " Книга и мы", "Наша слова" ды іншых.

А выпадковая сустрэча з ім адбылася, калі мне памяць не зманяе, калі ў яго быў вольны час пасля паездкі ў Гродна: у Баранавічах была перасадка на электрацягнік у Мінск і ён вырашыў крыху паблукаць па кніжных крамах. Найперш яго цікавілі мясцовыя аўтары і тутэйшая краязнаўчая літаратура, але яго "кніжны голад" гандляры чамусьці не задаволілі. Я якраз быў у гэты час і ў тым жа месцы і звярнуў сваю ўвагу на дапытлівага юнака. Ён прадставіўся, і мая галава адразу ж, як той камп'ютар, выдала мне звесткі аб ім. А потым і адбыліся мае публікацыі аб студэнце-краязнаўцы А. Шалахоўскім ва ўніверсітэцкай газеце БДУ "Нашым слове" ды іншых. Ён з'яўляецца першым даследчыкам і публікатарам матэрыялаў па гісторыі Магілёўскага медыцынскага вучылішча і духоўнай семінарыі.



Аляксей Шалахоўскі ля помніка мастаку Марку Шагалу, 2009 г.

Сёння ўжо А.Л.Шалахоўскі ў сваe 35 годсталы аўтар публікацый у шматлікіх выданнях, у т.л. у "Краязнаўчай газеце", "Культуры", "Літаратуры і мастацтве" ды яшчэ ў добрым дзясятку газет і часопісаў.

А я вяртаюся да "Польскага кавалера", тыраж – 100 экзэмпляраў. Гаворка ў кніжачцы ідзе пра самога сябе, сваіх родных, сяброў і знаёмых, пра падарожжы па рэспубліцы, краязнаўчыя пошукі і адкрыцці. З яго творчых вандровак пералічу толькі частку: Бабруйск, Баранавічы (напісаў іх і чамусьці ўспомніўся вялікі рускі наватар паэзіі Уладзімір Маякоўскі, які неаднойчы адзначыўся ў Беларусі, цытую даслоўна: "… А например, на Барановичи или Бобруйск не всякое слово полезет. Надо найти для примера:

*Баба – пончик, мальчик русский,*

*Восемь лет прожил в Бобруйске."*

Як мне падаецца, толькі дзеля гэтых слоў класіка рускай і савецкай літаратуры абавязкова трэба наведаць гэтыя гарады), Ашмяны, Скідаль (спецыяльная сустрэча з адметным мясцовым краязнаўцам У. Барысавым), Ліда (з такім жа апантаным даследчыкам роднага краю А.Жалкоўскім), Талачын (гасцяванне ў сапраўднага і неўтаймоўнага падзвіжніка родных абшараў, за што зусім нядаўна прысвоена пачэснае званне Ганаровага грамадзяніна Талачынскага раёна, А.Шнэйдара), Кобрын, Лепель, Пінск, Брэст, Мазыр, Кушляны, Браслаў, Гродна, Полацк, Клічаў, Навалукомль, Лунінец, Зэльва, Асіповічы, Ваўкавыск, Тураў …

Уражвае спіс творцаў, вучоных, дзеячаў, краязнаўцаў, з якімі Аляксей Леанідавіч Шалахоўскі меў ці мае свае стасункі, сувязі, перапіскі, сустрэчы: Мікола Аўрамчык, Сяргей Юркевіч, Кузьма Козак, Браніслава Лапкоўская са слаўнага роду Алеся Гаруна, Арнольд Міхневіч, Алесь Корнеў, Віталь Скалабан, Уладзімір Шаліхін, Зінаіда Бравaрская…

Так здарылася, што сваё апошняе інтэрв'ю пры сваім жыцці вялікі Юрый Нікулін даў менавіта А.Шалахоўскаму. Паліца кніг з аўтографамі знакамітых людзей Беларусі ў яго сягае за 100 асобнікаў.

Кніжачка Аляксея Шалахоўскага названа "Польскі кавалер", бо яго так клікала бабуля Іраіда Паўлаўна са шляхецкага роду Рэутаў, відавочна, гэтае выданне і аб Рэутах… Ды і само яно ўдзячна прысвечана "бабульчыным хвосцікам" (так усе ў маленстве звалі Аляксея) ёй.

Так, здатна сваімі краязнаўчымі здабыткамі, роздумамі сустракае сваё 35-годдзе Аляксей Шалахоўскі, і мы на гэтым яго пракручастым шляху жадаем яму натхнення і плёну, моцнага здароўя, шчасця і толькі чыстых і светлых дзён!

---

Паэт і даследчык беларускай літаратуры

Міхась Скобла:

**«Мы дваццаць гадоў жывем у незалежнай Беларусі, а наша жыццё да гэтай пары прасякнута савецкімі мітамі. Мы іх павінны пазбаўляцца. І найлепшым дапаможнікам тут будзе новая кніга Вячаслава. Я неаднойчы назіраў, як на першую ягоную кнігу літаральна палююць кнігараспаўсюднікі. Упэўнены, што і другую «Атлянтыду» чакае гэткі ж шчасьлівы лёс».**

## Рэстаўратары выраю

Вячаслаў Ракіцкі зь сябрамі робіць справу, якой немагчыма зрабіць: яны вычэрпваюць мора чужых мітаў, бліскучае, цяжкае і сьлізкае, як ртуць, і такое ж небясьпечнае.

Яны глядзяць назад і бачаць не мінулае, а таемнае і прышлае.

Яны адчыняюць куфар з фамільным срэбрам, а там манэты краіны, якой няма на мапе.

Яны выцягваюць са студні ваду, якая нараджае адно ненатольную смагу.

Яны здымаюць слой за слоем тынкоўку ў пошуках фрэскі, якой майстра не пасьпеў напісаць, хаця меўся і мог.

Яны ваююць зь ценямі, кожны зь якіх мае даўгі нож, што пакідае шрамы, і так ствараецца новы рукапіс і летапіс.

Як прысохлы бінт з раны, яны зрываюць з гісторыі прасякнутыя сваёй крывёю чужыя сьцягі, і так паўстаюць іх харугвы.

І разыходзіцца мора на два бакі, і ідуць яны сваёй грамадой агромністай па вуліцах беларускай Атлянтыды, дзе ляціць Пагоня, дзе старыя багі яшчэ маладыя, дзе ахвяры недарэмныя, а слава вечная, як памяць, салодкая, як сьляза, і блізкая, як вырай.

Яны не азіраюцца.

За імі!

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*



міт* па-руску – миф

# Другая «Атлянтыда» Вячаслава Ракіцкага



**Вячаслаў Ракіцкі,** журналіст Радыё Свабода. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў мястэчку Празарокі на Глыбоччыне. Скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Крытык, журналіст, перакладчык з польскай. Кандыдат мастацтвазнаўства. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і Саюза тэатральных дзеячаў. Шлях у журналістыку пачынаў, дарэчы, у глыбоцкай раённай газеце «Шлях Перамогі».

■ Уладзімір Скрабатун

Ну дзе, як не на Глыбоччыне, нарадзіцца Вячаславу Ракіцкаму! У Празароках, што стаяць на слынным Альгердавым Шляху! Гэта ж край паданняў, курганоў-валатовак, гарадзішчаў, блакітных азёраў...

Я вось падумаў: каго з выбітных пісьменнікаў па духу іх твораў можна паставіць у адзін шэраг з Вячаславам Ракіцкім?

Напрыклад, Тадэвуша Далэнгу-Мастовіча, ураджэнца Глыбоччыны? Можа быць! Вядомы фільм «Знахар», які зняты паводле яго аднайменнага твора, шмат каго кранае да слёз. Альбо Уладзіміра Караткевіча, аўтара раманаў «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Чорны замак Альшанскі», аповесцяў «Дзікае паляванне караля Стаха», «Сівая легенда»... Вельмі блізка па духу! Творы Караткевіча з любога чытача могуць зрабіць патрыёта Беларусі.

Аляксандр Лукашук назваў Вячаслава Ракіцкага і яго калегаў-суразмоўцаў, што спрычыніліся да выхаду двух кніг «Беларускай Атлянтыды», рэстаўратарамі выраю. Вельмі трапнае азначэнне! Пачынаеш чытаць і не хочацца кідаць: усё так цікава, захапляльна, рамантычна, загадкава, таямніча.

Першая кніга **«Беларускай Атлянтыды»**, якая пабачыла свет у 2006 годзе, гэта *«гутаркі Вячаслава Ракіцкага з вядомымі гісторыкамі, фальклярыстамі, культуролагамі, мастацтвазнаўцамі, пісьменнікамі пра невядомыя, забытыя, скрадзеныя рэаліі й міты еўрапейскай нацыі.*

*Бог, сэкс, магія, сны, гарэлка, інтрыгі, пацалункі, забавы, здані, бойкі, улада — жыццё й смерць па-беларуску і ў еўрапейскім кантэксце, ёміста, нечакана, дасціпна».*

«Таго, хто на гэтым сьвеце першы пачынаў біцца, чэрці рана і ўвечары сякуць лазою... Хто абгавораў ды паскудзіў славу добрых людзей, там ходзяць зь пішчыкам на языку... Брахун ходзіць з высалапленым языком...»

«П'яны знаходзіцца ў спецыфічным памежным стане сьвядомасьці, які робіць магчымым ягоны кантакт зь нячыстай сілай».

«Здані – гэта візуальныя вобразы, што час ад часу ўзьнікаюць перад вачыма асобных людзей, а потым бясьследна зьнікаюць... Здані могуць сьпяваць, плакаць, сьмяяцца, клікаць людзей да сябе».

А вось другая кніга **«Беларускай Атлянтыды»**, якая толькі што пабачыла свет, *«шукае нашае ў чужым, чужое ў сваім і сваё ў нашым. Вячаслаў Ракіцкі гутарыць з вядомымі філёсафамі, гісторыкамі, культуролагамі, пісьменнікамі пра нацыянальныя і каланіяльныя міты* і брэнды двух апошніх стагоддзяў».*

«Хлусьнёй і фальсыфікацыяй выглядаюць спробы зрабіць зь Беларусі «славянскую выратавальніцу» на карысьць саміх сябе».

«Новая беларуская нацыя мусіць мець повязь зь мінулым і хоць бы трошкі быць сялянскай, але не калгаснай».

«Праўда пра Грунвальд перашкаджала ўсім суседзям Беларусі, якія прэтэндавалі на яе этнічную тэрыторыю».

«У Заходняй Беларусі далей ад Расеі, лепей захавалася культура вытворчасьці, патрабавальнасьць да ўзроўню жыцця, да асабістай свабоды, да рэлігіі».

«Самая спакусьлівая з усіх спакусаў камуністычнага міту: людзі ва ўсе часы хацелі, каб гэты міт быў рэальнасьцю».

«Сучаснае беларускае грамадзтва далучылася да міту пра народ савецкай пары, і ўлада гэта накіравана падтрымлівае».

«Савецкі чалавек – гэта перадусім хам, які зьявіўся на палітычнай авансцэне».

«Людзі памятаюць несправядлівасьць і сьмерць, жахлівае чаканьне «чорнага варанка», пасьля якога чалавек зьнікаў бясьследна».

«Міт пра адвечную сацыяльна-палітычную талерантнасьць беларусаў ня толькі шкодны, але і не мае пад сабой рэальных гістарычных падставаў».

«Сёньняшні БНФ і той, што калісьці ўзножыў усю краіну, калі і маюць нешта агульнае, дык толькі абрэвіятуру».

**Вячаслаў Ракіцкі падараваў асобнік другой кнігі «Беларускай Атлянтыды» Глыбоцкай раённай бібліятэцы.**

**"Обучать народ – значит, делать его лучше, просвещать народ – значит, повышать его нравственность; делать его грамотным – значит, цивилизовать его".**

*В.Гюго*

# Урокі гісторыі

■ **Фадзей Шымуковіч,** *старэйшына старадаўняй часткі Дзісны.*

Адзіны ўрок, які можна ўзяць з гісторыі, – гэта тое, што людзі не бяруць з гісторыі ніякіх урокаў. Добра, што не ўсе. Як прыклад, кіраўніцтва Паўднёвай Карэі, краіны, якая выйшла з Другой сусветнай вайны па ўсіх паказчыках на ўзроўні сярэдневяковага феадалізму, удзяляючы першасную ўвагу адукацыі і навуцы, ужо не адзін год уваходзіць у дзясятку самых развітых краін свету.

Аднак, зробім экскурс у стогадовае мінулае нашай краіны. Персанаж нашага экскурсу – гэта педагог, які рэальна жыў у 1910 годзе. Звесткі адносна месца яго працы, прыбыткаў, цэн на прадукты харчавання і паслугі таксама рэальныя.

Уладзімір Кандратавіч Дыдырка пасля заканчэння ў 1902 годзе Кіеўскага ўніверсітэта св. Уладзіміра аказаўся ў г. Мінску на выкладчыцкай працы. Атрымаў яе ў Мінскай мужчынскай гімназіі, якая знаходзілася на вуглу Падгорнай і Губернатарскай вуліц (зараз адпаведна К. Маркса і пр. Незалежнасці). Да 1910 года Уладзімір Кандратавіч знаходзіўся ў добрых адносінах са сваім начальнікам – дырэктарам гімназіі Сяргеем Васільевічам Прэабражэнскім, што дазволіла яму атрымаць добрую нагрузку і , як вынік, зарплату. Пры нагрузцы 12 нарматыўных і 16 дадатковых урокаў у тыдзень, за год ён атрымаў 1980 рублёў, плюс 160 рублёў за класнае кіраўніцтва і 270 рублёў на ўтрыманне, у выніку набегла добрая сума ў 2410 рублёў. Канечне, гэта не 3800 рублёў, якія атрымліваў дырэктар гімназіі Прэабражэнскі, і не 5800 рублёў дырэктара Мінскай дырэкцыі народных вучылішчаў Палікарпа Андрэевіча Салаўёва, але тым не менш – гэта больш, чым зарплата выкладчыкаў вучылішча, якія атрымлівалі крыху больш за палову ягонай. Для больш дакладнага разумення ўзроўню зарплаты царскіх настаўнікаў патрэбна ўлічыць, што рубель 1920 года меў некалькі іншую пакупніцкую каштоўнасць. Пасля ўвядзення ў 1897 годзе залатога маменталізму любы ўтрымальнік паперачнага банкнота коштам 10 рублёў у Дзяржбанку мог абмяняць яго на 10 рублёў золата вагой 7,7423 г.

Уладзімір Кандратавіч за 200 рублёў у год здымаў трохпакаёвую кватэру непадалёк ад гімназіі па вул. Петрапаўлаўскай (зараз вул. Энгельса). У кватэры былі камунальныя выгоды, вадаправод, каштавала гэта выгода 25 капеек за 100 вёдраў вады. У дзень на ўсялякія патрэбы ішло 3 вядры вады. Асвятлялася кватэра свечкамі і керасінавай лямпай. Фунт (409 грам) стэарынавых свечак каштаваў 29 капеек, фунт газы (керосина) 5 капеек. У суткі расход газы складаў 2 фунты. Свет – больш дарагая рэч, і выкарыстоўваўся ён у прысутнасці гасцей.

Ацяпленне было пячное, паліва – дровы і вугаль. Кошт аднаго кубічнага сажаня (9,713 м.куб) дроў каштаваў 24-28 рублёў. Ён аддаваў перавагу дровам, якія не напаўнялі кватэру непрыемным пахам. На год выходзіла 3 кубы спаленых дроў.

Уладзімір Кандратавіч трымаў прыслугу, у абавязкі якой уваходзіла прыбіраць кватэру, цепліць печы, мыць бялізну, варыць есці за 6 рублёў у месяц. Ніякай гаспадаркі ў яго не было, як не было і іншых прыбыткаў, акрамя зарплаты.

Харчаваўся Уладзімір Кандратавіч дома і нават няблага. Прыслуга была добрай кухаркай і песціла гаспадара смачнымі і пажыўнымі стравамі. Пры жаданні для разнастайнасці ён дазваляў сабе наведванне рэстарана. Адно наведванне абыходзілася да 3 рублёў. У год на гэта задавальненне ён траціў каля 150 руб. Што тычыцца кошту прадуктаў харчавання, то з улікам памеру яго зарплаты, яны былі таннымі. Фунт жытняга хлеба каштаваў 2,5 капеек; пшанічнага – 3,5 капеек. Фунт солі 1,5 кап., фунт цукру 14 кап., фунт мяса 12-16 кап. Рыначныя цэны таго часу: мука пшанічная 1-га гатунку пуд (16кг) – 2 рублі 30 капеек, крупы грэчневыя 1-га гатунку – 2 рублі, сыр галандскі – 9 руб 20 кап., сыр тваражны – 3 рублі 30 кап., масла 1-га гатунку – 16 рублёў, тварог – 2 рублі 40 капеек, селядзец 1-га гатунку – 6 рублёў 50 кап. Вядро смятаны – 3 рублі 50 кап, вядро малака – 60 кап.

Што тычыцца спіртных напояў, то Уладзімір Кандратавіч сам сачыў за сваім барам, папаўняў яго белымі і чырвонымі вінамі, каньяком і лікёрам. Ён не быў непітушчым, але ніколі не злоўжываў спіртным. Прымаў толькі добрае віно і іншыя спіртныя напоі і толькі ў кампаніі з сябрамі. Разам з рэстараннымі выдаткамі на спірныя напоі выходзіла 450 руб. у год.

Прадукты харчавання купляла прыслуга, на што ёй выдзялялася пэўная сума на тыдзень, і калі яна ўмудралася сэканоміць не на шкоду добраму сталу, Уладзімір Кандратавіч нічога супраць не меў.

Не эканоміў ён і на адзенні, як-ніяк горад губернскі, і становішча абавязвала мець прыстойны знешні выгляд. На адзенне ён траціў 500 руб. у год. Для прыкладу – шыкарнае паліто з каўняром з натуральнага дарагога футра каштавала каля 40 руб, касцюм "тройка" з сапраўднай англійскай шэрсці – 20 руб., штаны ад 4 да 10 рублёў.



Наведваў ён тэатр, кінематограф, цырк. Любіў пагуляць па алеях Губернатарскага парку, карыстаўся конкай. На газеты і кнігі траціў у год 150-200 рублёў. Гадавая падпіска на газету "Северо-Западный край" (гэта чымсьці падобна на сённяшнюю "СБ") каштавала 5 рублёў. Былі і непрадбачаныя расходы: наведванне ўрачоў, пакупка лякарстваў, раз'езды.

Такім чынам, расходы Уладзіміра Кандратавіча ў год складалі 1850 рублёў, прычым чалавек жыў паўнацэнным жыццём, ніколі не мучыўся думкамі аб тым, каб дажыць да зарплаты, у каго ўзяць у доўг і як потым яго аддаць. Кожны год у яго заставалася 560-600 рублёў незапатрабаваных грошай, якія ён клаў у банк пад працэнты, справядліва мяркуючы, што ў будучым, калі ён створыць сям'ю і з'явяцца дзеці, не будзе вострых праблем за што іх карміць, апранаць, даць адукацыю.

Як бачым, настаўнік гімназіі 100 год таму назад з поўным на тое правам адносіў сябе да катэгорыі сярэдняга дастатку і мог дазволіць сабе зняць добрую кватэру з выгодамі, добра апранацца, нармальна і паўнацэнна харчавацца, наведваць тэатр і рэстаран, адчуваць сябе цывілізаваным чалавекам і не капацца ў зямлі і гнаі, а поўнасцю прысвяціць сябе ўдасканаленню сваіх прафесійных навыкаў. Ад такога настаўніка можна было патрабаваць і чакаць добрай аддачы.

Будучы дырэктарам Акунёўскай СШ, мой сусед, 70-гадовы Грэдзюшка Якаў Емяльянавіч, чалавек з унікальнай памяццю, паведаміў мне, што пры царскай уладзе і ў першыя гады польскай улады пачатковая школа знаходзілася ў Стэфанполлі ў прыватным арандуемым доме. Гэта ўжо ў 1937 годзе палякі ў Акунёве пабудавалі тыпавую пачатковую школу, якая з 1945 года функцыянавала як сямігадовая, а ў 1952 годзе стала дзесяцігодкай. Дык вось, пры польскай уладзе школу ўзначальвала прысланая палякамі настаўніца, якая пражывала на прыватнай кватэры. Кватэру для яе здымала і аплочвала гміна. Зарплата настаўніцы дазваляла ёй трымаць прыслугу з 2-х чалавек: адна жанчына займалася гатаваннем ежы, другая прыбірала кватэру, мыла бялізну і выконвала ўсе іншыя гаспадарчыя работы. Ні аб якой прыватнай гаспадарцы не магло быць і мовы. Калі ёй неабходна было паехаць у г. Дзісну або ў іншыя школы на метадычныя аб'яднанні, яна наймала рамізніка, прычым павозка, конь і сам рамізнік павінны былі мець прыстойны выгляд. Плаціла добра. Яна свабодна валодала французскай і італьянскай мовамі і таму па чарзе кожны год летам ездзіла адпачываць то на французскія, то на італьянскія курорты. Магла сабе дазволіць выпісваць патрэбныя газеты і часопісы, набываць неабходную літаратуру, якую ёй прывозілі з Вільні. Па нашым разуменні, вяла здаровы лад жыцця, была забяспечаным чалавекам.

У 1966 годзе мне прыйшлося прыняць Акунёўскую СШ, якую я закончыў у 1955 годзе. З 14 педагогаў было шасцёра мужчын. У нашым Мёрскім раёне толькі дзве жанчыны былі дырэктарамі школ. Нават некаторыя пачатковыя школы ўзначальвалі мужчыны. На сённяшні дзень карціна памянялася. У раёне толькі некалькі мужчын узначальваюць школы. Больш за тое, настаўнікаў-прадметнікаў мужчынскага полу, за выключэннем фізкіраўнікоў і настаўнікаў працы, можна запісваць у Чырвоную кнігу. Не гнявайцеся, паважаныя жанчыны, я аб вас самага высокага меркавання і як аб спецыялістах, і кіраўніках, і людзях наогул. Але згадзіцеся са мной, што ў школьным калектыве для стварэння атмасферы паспяховага выхавання навучэнцаў, педкалектыў павінен складацца як з жанчын, так і з мужчын.

Куды ж падзеліся нашы мужчыны? Адказ ляжыць на самой паверхні. Сярэдняя месячная зарплата ў педагогаў не дацягвае да 800 тысяч рублёў. Менш атрымліваюць толькі прадстаўнікі культурнага фронту. Але гэта сярэднямесячная. А колькі будзе зарабляць малады педагог, які толькі што закончыў ВНУ, не мае ні стажу работы, ні катэгорыі. Вось і прыходзіцца на першай пары дапамагаць яму бацькам-пенсіянерам. І атрымліваецца, што бацькі павінны дагадваць сваё чада-педагога да пенсіі. Вынік такой палітыкі просты: адпрацаваць як-ніяк двухгадовую абязалаўку– і ходу са школы. Юнакі ды і дзяўчаты з ахвотай ідуць у міліцыю, там зарплата ў сяржанта намнога вышэйшая, чым у настаўніка са стажам. Другая прычына – бюракратычная справаздачнасць. У органах адукацыі ў раёне і вобласці з'явілася столькі пасад, якія, каб паказаць сваю неабходнасць існавання, збіраюць розныя справаздачы, даведкі, якія павінны быць набраныя на камп'ютары. Падчас тэлеперадачы "Выбар", якая праводзілася перад пачаткам навучальнага года, аб гэтым гаварылі многія педагогі, і намеснік міністра адукацыі Казімір Фарыно нічога змястоўнага не змог сказаць у апраўданне.

Калі раней у школах лянівых палохалі словамі, што, калі будзеш дрэнна вучыцца, то пойдзеш у СПТУ або ГПТУ, то зараз трактоўка змянілася, кажуць, нікуды, акрамя педінстытута, не паступіш. На вышэй упамянутай перадачы ўздымалася пытанне аб тым, што абітурыенты педінстытутаў маюць вельмі слабую падрыхтоўку. І як не пагадзіцца Фарыно, калі ён быў пастаўлены перад фактам, што студэнты-першакурснікі пры напісанні дыктанта дапускаюць вялікую колькасць памылак, асобныя ўмудраюцца па 30-36. І нікуды мы не дзенемся ад факта, што ў педвну жадаюць паступаць адзінкі хлопцаў, затое які вялікі конкурс у Ваенную акадэмію і акадэмію МВД. З кожным годам у гэтыя ўстановы паступае ўсё больш дзяўчат.

Нельга не пагадзіцца з меркаваннем нашага Прэзідэнта аб тым, што мы ад нашай зямлі-матухны хоць з кожным годам і павялічваем аддачу, але яна далёка ад той, якую здольна даць пры добрым і навуковым падыходзе. Давайце пагледзім на Галандыю, тэрыторыя якой усяго на 0,8 тыс. кв. кіламетраў большая за нашу Віцебскую вобласць. Але патрэбна ўлічыць тыя абставіны, што каля 40% тэрыторыі Галандыі – гэта ў мінулым марское дно. Яна салёная і малаўраджайная. У Віцебскай вобласці пражывае 1,24 млн. чалавек, у той час як у Галандыі каля 16 млн. Галандцы з гэтай тэрыторыі не толькі кормяць свой народ, але маюць вялікі даход ад экспарту сельскагаспадарчай прадукцыі. Мы, беларусы, не горшыя за галандцаў. Мы не лянівыя і не былі імі ніколі.

Задача ўдвоіць у бліжэйшыя 3-5 гадоў вытворчасць сельгаспрадукцыі не ўтопія, а рэальнасць. Але пры ўмове, што гэта справа будзе выконвацца гарачым сэрцам, халоднай галавой, працаўнічымі на поўную магутнасць мазгамі і чыстымі рукамі. Кажучы іншымі словамі, цывілізаваным грамадзянінам Рэспублікі Беларусь. А сфарміраваць такога чалавека без добрага настаўніка-наватара немагчыма. У свой час японцы, паўднёвакарэйцы і іншыя краіны ішлі такім шляхам. Іншага шляху няма. Раб, арандатар і інш. гэту задачу не выканаюць.

Народ патрэбна навучыць, адукаваць і зрабіць яго грамадзянінам. Гэтаму вучыць нас гісторыя.

# Âû ñòóï êàíäûäàòà ¢ ïðýç³äýíòû Ðýñïóáë³ê³ Áåëàðóñü Óëàäç³ì³ðà Íÿêëÿåâà íà áåëàðóñê³ì òýëåáà÷àíí³

**Çàêàí÷ýííå.**
*Ïà÷àòàê íà ñòð. 6, 11.*

Наше сельское хозяйство, если его перестать угнетать, способно производить столько продукции, что от продажи ее мы сможем оплачивать поставки всех необходимых нам энергоресурсов. А то, что мы платим за них сейчас, мы сможем выделить на пенсии, стипендии, пособия инвалидам, льготы чернобыльцам, воинам-интернационалистам, детям войны, как это делается сейчас в Украине. При рождении ребенка мы будем выплачивать материнский капитал в размере эквивалентном 25 000 долларов, как выплачивается он сейчас в той же Украине и при рождении второго ребенка в России. Мы будем делать все необходимое, чтобы появлялись молодые семьи, рождались дети, спокойно жили пенсионеры.

Дорогие пенсионеры и пенсионерки, не бойтесь, что при смене власти вы что-то потеряете. Вы не потеряете ничего. Пенсии вам будут выплачиваться и будут увеличиваться, но не под выборы, как это делает Лукашенко, чтобы купить ваши голоса, а под каждое увеличение зарплаты. Увеличились зарплаты – и пенсии поднялись. Так происходит во всем мире – и будет происходить у нас. Это обязанность государства, а не желание, милость, ласка его руководителя, который делает вид, будто это он всех нас кормит, одевает, всем нам платит. Деньги у государства не президентские, а народные. На пенсии, на пособия, на льготы вы заработали всей своей жизнью, своим трудом.

Второй источник денег для повышения уровня жизни – в среднем и малом бизнесе, который сейчас не развивается по той же причине, что и сельское хозяйство: власти не нужны богатые, а значит, свободные люди.

Третий источник доходов для повышения уровня жизни в том, что называется лидерской экономикой, которая должна прийти на крупнейшие предприятия и вывести их из-под полного контроля власти. Наши управленцы, руководители предприятий хорошо знают и понимают, что это такое. Именно за попытки стать лидерами и самостоятельно решать экономические вопросы в промышленности и сельском хозяйстве тюрьмой поплатились два крупнейших руководителя: директор тракторного завода и министр сельского хозяйства. При новой власти лидерская экономика придет и на те предприятия (чтобы спасти их), которые в условиях белорусского социализма представляются бесперспективными.

Все наши экономические проблемы упираются в проблемы политические. А все политические проблемы – в проблему одного человека. Поэтому мы проведем политическую реформу таким образом, чтобы обеспечить наше развитие, наше будущее, чтобы возвращение к диктатуре в Беларуси стало невозможным даже теоретически.

Усё ў нас, родненькие беларусы, будзе добра. Вам шмат хто гэта абяцаў – і якім толькі дзівакам і прайдзісветам вы не верылі! Дык паверце хоць раз свайму паэту. А калі вам здасца, што я кірую краінай не так, як вы хацелі, вы без аніякіх праблем у незалежнай, вольнай, дэмакратычнай Беларусі выберыце новага прэзідэнта. Але дайце шанс. Мне і сабе.

А цяпер уявіце сабе такую карціну.

Новы год. Толькі што прайшлі прэзідэнцкія выбары і вы прагаласавалі за новага прэзідэнта. За Уладзіміра Някляева. І я, новы прэзідэнт, віншую вас з Новым годам.

Вы сядзіце ў сваіх дамах за святочнымі сталамі – і недзе каля ёлкі з сынам Міколкам сядзіць былы прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. І я, новы прэзідэнт, дзякую экс-прэзідэнту за ўсё, што ён зрабіў. За тое, што захаваў незалежнасць Беларусі. За тое, што не дапусціў эканамічнага крызісу. За тое, што не скараціў сацыяльную падтрымку. За ўсё добрае. А найперш за тое, што мудра зразумеў: усе ягоныя сілы і магчымасці за доўгія, цяжкія гады прэзідэнцтва цалкам вычарпаныя. Так бывае. Чалавек не жалезны, не бясконцы ў сваіх магчымасцях. І цяпер, каб краіна развівалася, рухалася наперад, павінны прыйсці новыя сілы і новыя людзі. Таму ён нарэшце справядліва правёў прэзідэнцкія выбары, не пайшоў, як раней, на фальсіфікацыю, і прыняў выбар народу. І вось разам з жонкай, да якой вярнуўся пасля доўгіх гадоў расстання, ён уздымае бакалы за новага прэзідэнта. За Уладзіміра Някляева, якога паважаў некалі як паэта, і песні якога так любіў спяваць: "Мы першы бакал уздымем па праву за Белую Русь, за нашу дзяржаву, за славу яе, за гордую славу – нам ёй даражэй!.."

Уявілі карціну?..Змяніўся прэзідэнт. І што кепскага сталася? Шампанскае скісла? Ці нябёсы на зямлю ўпалі? Страшны суд наступіў?..

Нічога кепскага не сталася. Доўжыцца жыццё.

Але Новы год яшчэ не наступіў – і выбары наперадзе.І ў мяне да вас дзве просьбы. Толькі дзве.

Першая: не хадзіце на датэрміновае галасаванне!

Повторяю: не ходите на досрочное голосование! Ничего не бойтесь, ничего вам за это не сделают! Голосуйте только в день выборов. Досрочное голосование – это гарантированная фальсификация. Все ваши голоса окажутся у Лукашенко.

І другая просьба. Нават не просьба – запрашэнне: прыходзьце 19 снежня ў 8 вечара на плошчу святкаваць нашу з вамі перамогу на прэзідэнцкіх выбарах 2010-га года!

Приходите 19 декабря в 8 вечера праздновать нашу с вами победу!

*Мы ляжым снапамі на таках,*
*Нас малоціць кожны, хто ў руках*
*Мае цэп! І так ва ўсе вякі...*
*І яшчэ пытаюць землякі:*
*Што табе, паэту, да палітыкі?*

*Як пытанне – так адказ наўпрост:*
*Я прыйшоў, каб вы ўдыхнулі волі,*
*Каб без страху ўсталі ў поўны рост*
*І на ток не леглі ўжо ніколі!*

*Каб у родным краі валадарылі*
*Бог на небе, праўда на зямлі,*
*Каб збылося ўсё, пра што вы марылі!..*
*Я прыйшоў, каб вы перамаглі!*

# Ó áðýñöê³õ êðàìàõ âûÿâ³ë³... êàíîïë³



■ БелаПАН

**Дакладней, не само наркатычнае зелле, а мілыя аплікацыі з вышытымі на іх вострымі лісцікамі. Скандал з-за таго, што ў крамах легальна прапагандуецца наркотык, узняла адна з чытачак газеты «Вячэрні Брэст». Міліцыя зрэагавала хутка.**

«У сувязі з узнікшай неабходнасцю ўстанаўлення відавай прыналежнасці ліста расліны, выяўленага на аплікацыі, кафедра батанікі і экалогіі біялагічнага факультэта Брэсцкага дзяржуніверсітэта імя А.С. Пушкіна арганізавала камісійнае даследаванне аплікацыі і ўстанавіла, што «выяўлены ліст расліны па марфалагічных прыкметах не з'яўляецца выявай ліста канопляў (Canabis sativa)...

Паводле артыкула 24 Закона Рэспублікі Беларусь ад 22 мая 2002 года № 102-З "Аб наркатычных сродках, псіхатропных рэчывах і іх прэкурсорах», у Рэспубліцы Беларусь забараняецца рэклама наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і іх прэкурсораў у мэтах незаконнага іх выкарыстання, гэта значыць дзейнасць фізічных і юрыдычных асоб, накіраваная на распаўсюджванне звестак аб спосабах і метадах вырабу і выкарыстання, месцах спажывання наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і іх прэкурсораў, а таксама вытворчасць і распаўсюджванне кніжнай прадукцыі, распаўсюджванне названых звестак у сродках масавай інфармацыі, камп'ютарных сетках, за выключэннем інфармацыі ў спецыялізаваных друкаваных выданнях.

"Каноплі з'яўляюцца сыравінай для вырабу наркатычных сродкаў (марыхуана, гашыш і іншыя). Упраўленне па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі крымінальнай міліцыі УУС распрацоўвае прапанову аб унясенні змяненняў у заканадаўства з мэтай абмежаваць выкарыстанне канопляў на таварах народнага спажывання (аплікацыі, араматызатары паветра і іншыя) ", - гаворыцца ў паведамленні абласнога УУС.

Аднак пакуль маляваць каноплі на аплікацыях, майках, плакатах, аказваецца, не забаронена.

■ БелаПАН

# Ó Áåëàðóñ³ ðàçãëÿäàåööà ìàã÷ûìàñöü óâÿäçåííÿ àáàâÿçêîâàãà ìåäûöûíñêàãà ñòðàõàâàííÿ

**Пра гэта паведаміла на прэс-канферэнцыі 2 снежня генеральны дырэктар Беларускай асацыяцыі страхаўшчыкоў (БАС) Ірына Мерзлякова.**

Паводле яе слоў, падрыхтаваны праект дзяржпраграмы развіцця страхавога рынку на найбліжэйшыя пяць гадоў. У адпаведнасці з праектам асноўная ўвага будзе нададзена развіццю асабістага страхавання, «гэта значыць усяго, што тычыцца жыцця і здароўя грамадзян».

У прыватнасці, прадугледжваецца ўвядзенне сістэмы абавязковага медыцынскага страхавання. Таксама разглядаецца пытанне аб страхаванні дадатковай пенсіі. «Гаворка ідзе пра тое, каб уключыць эканамічныя рычагі і заахвоціць прадпрыемствы павялічыць увагу да страхавання жыцця і заключаць дагаворы для сваіх работнікаў», — сказала Мерзлякова.

Акрамя таго, у праекце закладзены меры па росце страхавога рынку і павелічэнні ўзносаў на душу насельніцтва.

Як адзначыла Мерзлякова, памер страхавых прэмій на душу насельніцтва складае каля 40 долараў. «Гэтага мала. Планы на наступную пяцігодку — павялічыць памер узносаў амаль у шэсць разоў. Гэта дазволіць наблізіцца нам па гэтым паказчыку да суседзяў», — сказала генеральны дырэктар.

Яна паведаміла, што ў краінах ЕС памер страхавых укладаў на душу насельніцтва складае каля 3 тыс. долараў. «Нам ёсць куды рухацца», — падкрэсліла Мерзлякова.

Таксама кіраўнік БАС нагадала, што падрыхтаваны праект указа аб унясенні зменаў у заканадаўства па пытаннях страхавой дзейнасці.

Праектам прадугледжана ўвядзенне шэрагу лібералізацыйных мер па вядзенні бізнесу на страхавым рынку. У прыватнасці, прадугледжваецца магчымасць допуску замежных страхаўшчыкоў да страхавання жыцця. Таксама плануецца прадастаўленне роўных умоў вядзення бізнесу для прыватных і дзяржаўных кампаній. У гэтай частцы прадугледжана дазволіць прыватным кампаніям перайсці да страхавання грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў аўтатранспартных сродкаў.

Акрамя таго, прадпрыемствы-страхаўшчыкі змогуць адносіць узносы па страхаванні жыцця і пенсіі на сабекошт незалежна ад формы ўласнасці страхавых кампаній.

Праект прадугледжвае ўвядзенне паведамляльнага парадку ўзгаднення правілаў і адмены абмежаванняў па долі аднаго ўдзельніка ў капітале страхавой кампаніі, якая цяпер складае 35%.

## ІМЯНІНЫ

**9 снежня**
**Пр.:** Георгія, Пятра, Мікалая, Васіля, Іллі, Якава.
**К.:**Леакадзіі, Наталлі, Яўхіма.

**10 снежня**
**Пр.:** Івана, Мікалая, Сяргея, Захара, Рамана, Усевалада, Аляксея.
**К.:** Марыі, Юліі, Андрэя, Даніэля, Рыгора.

**11 снежня**
**Пр.:** Васіля, Івана, Мікалая, Фёдара, Сцяпана.
**К.:**Клары, Даніэля, Сабіны, Сцяпана.

**12 снежня**
**Пр.:** Парамона.
**К.:**Адэлаіды, Аляксандра, Кандрата, Жанны.

**13 снежня**
**Пр.:**Андрэя Першазванага.
**К.:** Юліі, Пятра, Уладзіміра, Люцыі.

**14 снежня**
**Пр**.:Навума.
**К.:**Альфрэда, Яна.

**15 снежня**
**Пр.:** Андрэя, Антона, Канстанціна, Мікалая, Сцяпана, Уладзіміра, Мацвея.
**К.:**Марыі, Ніны, Віктара, Валяр'яна, Хрысціны.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Раскладка игральных карт | Древнее метательное орудие | Принимается без доказательства | Предмет мебели | | | | | | |
| | | | | | Пустыня в Средней Азии | | Отдельное помещение в гостинице | | Английская серебряная монета |
| | Хвойное дерево | | Починка, исправление | | | | | | |
| | | | | | Приток Иртыша | | Земля в Германии | | Сын дочери |
| | Пресмыкающееся отряда ящериц | | Типографский шрифт | | | | | | |
| | | | | | | Денежная единица Ирана | | Столица государства на Кавказе | |
| | Река в Берне | | Птица семейства аистов | | | | | | |
| | | | | | Государство в Азии | | | | |
| Народ в Скандинавии | | Сладкое кушанье | | Болезнь растений | Божество смерти в римской мифологии | | Воспитательница (устар.) | | Фильм с Сильвестром Сталлоне |
| Порода кроликов | | Подъемный механизм | | | | | | | |
| | | | | Римская медная монета | | Имя осла Уленшпигеля | | Ирный корень | |
| | Окантовка ботинка | | Меч скифов | | | | | | |
| | | | | | Персонаж оперы Бедржиха Сметаны | | | | |
| | Оттенок | | Африканская охота | | | | | | |

**Ответы на сканворд № 48**
**По горизонтали:** Гродно. Ряска. Рококо. Форум. Охрана. Резана. Интима. Армия. Ясак. Елабуга. Тмин. Набор. Фа. Прасол. Том. Морока. Овраг. Кат. **По вертикали:** Гармония. Оскар. Никон. Реформа. Серозём. Хан. Апис. Абак. Тяжба. Манго. Ритм. Иден. Аналог. Убыток. Аромат. Типи. Исаев. Фома. Ока.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень

**АВЕН.** Любая грамадская дзейнасць у гэты перыяд будзе ўдалай. Вы нібы пракоціцеся на "хвалі" і плаўна прыземліцеся ля вызначанай мэты. Варта клапаціцца не толькі пра ўласныя інтарэсы, а і лічыцца з пажаданнямі сяброў і сваякоў. Можа здарыцца, што вашы мары некалькі адрозніваюцца ад таго, што хочуць вашы партнёры. Верагодныя спрэчкі з начальствам, расчараванні з-за недахопу фінансаў. Паспрабуйце забяспечыць сабе "шлях для адступу", каб у выпадку грашовых цяжкасцяў існавала магчымасць "прызямліцца на запасным аэрадроме".

**ЦЯЛЕЦ.** Удалы тыдзень для адважных учынкаў. Можна прымаць лёсавызначальныя рашэнні. Зрэшты, каб пазбегнуць лішняй рызыкі, варта ўсё добра пралічыць: асцярожнасць - якасць, якае можа вам спатрэбіцца. Пазбягайце неадназначных сітуацый, трымайце "нос па ветры" і будзьце гатовыя да любых нечаканасцяў. На выхадных вы зможаце адкрыць у сабе здольнасці, якія раней не праяўляліся .

**БЛІЗНЯТЫ.** Вы дасягняце поспехаў у працы. Галоўнае, выразна ўяўляць сабе мэты і шляхі іх дасягнення. Начальства ацэніць ваш творчы патэнцыял. Вось толькі не варта займацца справамі, у якіх вы не маеце досведу. Лепш узяцца за тое, што асабліва добра атрымліваецца. Калі вы - майстар па вядзенні перамоў ці ўладжванні праблем, то і развівайце свае здольнасці менавіта ў гэтых кірунка.І памятайце пра ўласнае здароўе, але не займайцеся самалячэннем.

**РАК.** Тыдзень прынясе шмат рамантыкі, на першы план выходзіць асабістае жыццё. Поспех будзе суправаджаць вас і ў службовай камандзіроўцы. Шматлікіх Ракаў на гэтым тыдні чакае новы раман. Калі вы не жанатыя, атрымаеце шанец знайсці годнага партнёра. У адносінах варта аддаваць прыярытэт не колькасці, а якасці, будзе лепш, калі замест некалькіх мужчын, якія вам сімпатызуюць, у вашым жыцці з'явіцца адзін чалавек, які вас кахае.

**ЛЕЎ.** Пачатак тыдня будзе прадукцыйным, таму запасіцеся цярпеннем. Другая палова - нядрэнны перыяд для рашэння пытанняў спадчыны ці крэдытавання. Калі не вельмі арыентуецеся ў гэтым самі, трэба звярнуцца за дапамогай да спецыялістаў. Паспрабуйце старанна адбіраць людзей на ролю кансультантаў, паколькі не ўсе з іх адпавядаюць заяўленаму статусу.

**ПАННА.** Першая палова тыдня - добры час для флірту. Толькі ўважліва выбірайце аб'ект, горад і час. Найбольш спрыяльнай будзе сярэдзіна тыдня. Справы, на якія вы і не разлічвалі, складуцца ўдала. Флірт на працы адназначна нашкодзіць рэпутацыі. Пазбягайце доўгіх гутарак з калегамі-мужчынамі, жаночая палова калектыва можа няправільна вытлумачыць вашы паводзіны. Замужнім дамам наогул не рэкамендуецца абмяркоўваць сур'ёзных пытанняў.

**ШАЛІ.** На працягу новага тыдня працоўных подзвігаў хутчэй за ўсё чакаць не варта, затое вы зможаце эфектыўна вырашаць любыя пытанні, звязаныя з грашыма. Самы час добра адпачыць, але выдаткі на забаўкі варта скараціць. Вельмі хутка ў вас з'явяцца значна важнейшыя запатрабаванні. Напрыклад, жаданне адправіцца ў паездку па далёкіх краінах. Тое, што вы калісьці запланавалі, рэалізуецца ў хуткім часе.

**СКАРПІЁН.** У гэты час вы акружаны ўвагай і клопатам. Людзі, якія прымаюць актыўны ўдзел у вашым лёсе, чакаюць, што вы апраўдаеце іх надзеі. Ад вашых паводзін сёння залежыць шматлікае. Імкніцеся быць больш інфармаванай: гэта палегчыць прыняцце рашэнняў. Пазбягайце канфліктаў з блізкімі, падарыце каханаму (каханай) рамантычнае спатканне. А таксама паспрабуйце сябе ў творчасці, вынік вас уразіць.

**СТРАЛЕЦ.** Зоркі не раяць праяўляць залішнюю актыўнасць. Гэты тыдзень ідэальна падыходзіць для адпачынку. Варта пазбягаць стрэсаў і перанапружання. Больш бывайце дома, у асяроддзі блізкіх вам людзей. У першай палове тыдня вы атрымаеце шанец на дадатковы прыбытак, але лепш нікому пра гэта не распавядаць. У другой палове тыдня дапускаюцца дзелавыя паездкі. Любоўнае пытанне вырашыцца да выхадных. Будзьце напагатове і не дапускайце сварак.

**КАЗЯРОГ.** Вы зможаце атрымаць ад сяброў шмат цікавай і карыснай інфармацыі. Можаце смела раіцца з тымі, хто вам рэальна дапаможа. Акрамя таго, вам атрымаецца сабраць нядрэнную каманду для выканання вялікага праекту, і з гэтым распачыннем злучана шмат надзей. Адзіная ўмова: праект не павінен быць камерцыйным, тады вас чакае поспех. Стабільны заробак прыйдзе пазней, калі члены калектыву "прытруцца" адзін да аднаго.

**ВАДАЛЕЙ.** На новым тыдні важна пазбягаць праяў эгаізму. Каб дасягнуць поспеху, лічыцеся з запатрабаваннямі тых, хто побач з вамі. Імкніцеся не канфліктаваць з уплывовымі асобамі. Асабліва, калі гэта звязана з новымі ідэямі ці перспектыўным кірункам, якія вы б жадалі ўкараніць. Не адкрывайце адразу ўсе казыры, варта перачакаць. На гэтым тыдні сёй-той з Вадалеяў можа стаць асабліва папулярным.

**РЫБЫ.** Ваш светапогляд неўзабаве можа змяніцца. Віной таму ўплыў людзей, якія вас акружаюць. Не варта мець зносіны з рэлігійнымі фанатыкамі, разнастайнымі прапаведнікамі ці людзьмі, якія захочуць змяніць вашы перакананні насуперак вашай волі. Удалымі будуць паездкі, але толькі па знаёмым маршруце. У выхадныя зносіны з каханым чалавекам дапамогуць вярнуць упэўненасць ва ўласных сілах.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

“Вольнае Глыбокае”
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 7. 12. 2010 года ў 21.05

«Вольнае Глыбокае» надрукавана на газетнай паперы РВУП **«Завод газетнай паперы» (г. Шклоў).**

Наклад 2100 паасобнікаў

**Рэдактар :**
**Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс**: (02156) 2 46 14;
**E-mail**: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова № 3533

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на “Вольнае Глыбокае” абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10049